**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 45 (866) 10 лістапада 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





У шэрагу раёнаў Мінскай і Віцебскай абласцей за суткі выпала амаль палова месячнай нормы ападкаў. У Докшыцах зарэгістравана – 47% (22 мм пры норме 47), у Сянне – 47% (21, 45), Бярэзінскім запаведніку – 44% (23, 52), Лепелі – 43% (23, 53). *Паводле nn.by*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023



**Бешанковіцкі раён**

# На ўзроўні сусветных стандартаў

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Беларускім рэгіёнам цяпер вельмі не хапае ўласных і замежных інвестыцый, а калі яны з'яўляюцца, то жыццё ў глыбінцы карэнным чынам змяняецца.**

Вось і невялікаму райцэнтру Бешанковічы з насельніцтвам 8 тысяч чалавек, што ў паўсотні км ад абласнога цэнтра, пашчасціла, што да іх прыйшоў сур'ёзны бізнес. Днямі на пляцоўцы, дзе раней стаяў закінуты завод жалезабетонных вырабаў, узняліся дзяржаўныя сцягі Беларусі, Славакіі, Індыі і Літвы. Мясцовыя ўлады перадалі яго бязвыплатна віцебскай прыватнай фармацэўтычнай фірме "ВітВар", якая на гэтым месцы ўзвяла сучасны прыгожы будынак. У ім урачыста адкрыўся медыцынскі навукова-даследчы цэнтр СТААТ "NatiVita", у якім працуе 51 малады вучоны. Праз лічаныя месяцы па суседстве пачне працаваць новы фармацэўтычны завод па выпуску сучасных прэпаратаў для лячэння анкалагічных і іншых цяжкіх інфекцыйных захворванняў. На гэтым прадпрыемстве спачатку запусцяць 7 відаў вадкіх лекаў супраць раку, а з другога паўгоддзя 2017 года яго 40 супрацоўнікаў будуць выпускаць яшчэ іншыя таблеткі і капсулы для лячэння хворых. У гэты важны сацыяльны і імпартазамяшчальны праект уклалі 15 млн. еўра інвестыцый, амаль палову з іх літоўская кампанія АВ Ziavalda. На цырымоніі адкрыцця медцэнтра старшыня верхняй палаты парламента М. Мясніковіч адзначыў, што такі праект унікальны, бо ў Беларусі з'явіўся першы медыка-фармацэўтычны кластэр. Да яго падключыліся замежныя спецыялісты ў гэтай галіне, а паслы краін-удзельніц праекта пасадзілі дрэўцы на тэрыторыі вакол медцэнтра.

**Аршанскі раён**

# Дарога – зона рызыкі

■ **Чэслаў Якубовіч.**

**З наступленнем позняй восені на беларускіх дарогах абстаноўка з рознымі ДТЗ рэзка абвастрылася.**

На жаль, асабліва на Віцебшчыне пачасціліся наезды на людзей нават на пешаходных пераходах, што прымусіла супрацоўнікаў падраздзялення Дзяржаўтаінспекцыі перайсці на ўзмоцнены варыянт нясення службы. Найбольш рэзананснае здарэнне адбылося ў аграгарадку Бабінічы, што ў Аршанскім раёне. Там вечарам пераходзіла ажыўленую трасу Віцебск-Гомель ва ўстаноўленым месцы сямейная пара. У гэты момант на людзей наляцеў на BMW невядомы, уцёк з месца аварыі і быў аб'яўлены ў вышук. Ад атрыманых траўм прама на пешаходным пераходзе загінуў 36-гадовы муж, а яго жонку з цяжкімі траўмамі даставілі ў рэанімацыю. На працягу сутак міліцыя рэгіёна праверыла больш 30 уладальнікаў іншамарак падобнай серыі, бо на месцы ДТЗ засталіся фрагменты такой машыны. У выніку пошукаў адшукалі ўладальніка аўто, але як аказалася, чорны бумер ён раней ужо прадаў маладому хлопцу. Глыбокай ночцу ў адной з вёсак Аршаншчыны знайшлі і затрымалі віноўніка гібелі, супраць яго распачата крымінальная справа за забойства на дарозе па неасцярожнасці чалавека і грубае парушэнне правілаў дарожнага руху. Аднак на дарогах Прыдзвіння зараз ідзе фактычна неаб'яўленая вайна, бо за адны суткі ў абласным цэнтры на "зебры" збілі жанчыну, пад калёсы праязджаўшага аўтамабіля патрапіў чарговы школьнік. Ночцу расійскі вадзіцель фуры на трасе ў Лепельскім раёне позна заўважыў п'яную 29-гадовую вясковую маладзіцу, якая заснула на праезнай частцы дарогі і ў выніку наезду загінула. Падобныя выпадкі з цяжкімі наступствамі пасля аварый сёлета фіксаваліся і ў іншых рэгіёнах з-за неасцярожных паводзін як вадзіцеляў, так і пешаходаў, веласіпедыстаў.

**Пастаўскі раён**

# Новы цэнтр адпачынку

■ **Кастусь Александровіч**

**У нашым Паазер'і з багацтвам люстэрак шматлікіх азёр і рэк, лясоў і прыгожых мясцін кожны можа атрымаць асалоду ад знаёмства з цудоўнымі краявідамі.**

Вось чаму ў самым заходнім горадзе вобласці – Паставах сёлета вырашылі яшчэ больш актыўна развіваць турызм. Яшчэ летам паблізу райцэнтра, у зоне адпачынку "Азёркі" на базе былой рэзідэнцыі знакамітага Зюзі Паазерскага з дапамогай фірмы "АльпПайер" паўстаў турыстычны вёровачны гарадок. Там ёсць некалькі паветраных трас сярод сосен, адна з якіх праходзіць непасрэдна над мясцовым возерам. Яна даўжынёй цэлых 160 метраў і з'яўляецца самай працяглай у Беларусі. Аднак на гэтым тут вырашылі не спыняцца і найперш сіламі гараджан і моладзі вельмі старанна ачысцілі і прыбралі лес, навялі ў гэтай мясцовасці ідэальны парадак. Гэта новая база адпачынку папоўніцца неўзабаве і папулярным у Еўропе скаладромам. На яго ўжо выдзелілі патрэбныя сродкі з мясцовага бюджэту. Там такія сценкі, якія імітуюць узыходжанне на горныя вяршыні, размяшчаюць прама ў буйных гандлёвых цэнтрах і ад дзяцей адбою няма, каб прайсці маршрут. Паблізу Пастаў у сасновым бары ўзвядуць нават тры штучныя вяршыны лёгкага, сярэдняга і складанага ўзроўню перашкод для пачынаючых альпіністаў. Не забыліся тут і аб маленькіх дзецях. Для іх таксама ў бліжэйшы час фірма, якая раней рабіла мантаж трас, пабудуе "Дзіцячую паляну" з вяровачнай трасай перашкод на малой вышыні, каб і самыя юныя наведвальнікі гэтага турыстычнага аб'екта атрымалі асалоду ад знаходжання на прыродзе. Каб адпачынак атрымаўся для сем'яў сапраўды карысным і памятным, для наведвальнікаў цэнтра пачалі абсталёўваць у адным з будынкаў кафэ, даводзіць да ладу іншую інфраструктуру. Дабрацца сюды з цэнтра горада зусім проста, трэба толькі ад'ехаць некалькі км па трасе ў бок Браслава і павярнуць на лясную дарогу.

# Аб самым надзёным

## У БЕЛАРУСІ ЗАФІКСАВАЛІ САМАЕ ЗНАЧНАЕ ПАДЗЕННЕ РЭАЛЬНЫХ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА ЗА АПОШНІЯ 20 МЕСЯЦАЎ



■ **Аляксандр Цішкевіч.**

**І самае сумнае, што падстаў для аптымізму няма, у бліжэйшыя гады лепей жыць не выпадае, а Беларусь мае шмат працавітых людзей. На жаль, нешта не тое робіцца ў краіне, размешчанай у цэнтральнай частцы Еўропы, дзе няма баявых дзянняў, як ва Украіне, і дзе няма страшных прыродных катаклізмаў тыпу магутных цунамі і землятрусаў.**

У паўсядзённым жыцці, і тым болей у эканоміцы, звычайна цудаў не бывае, а калі і здараюцца, то надзвычай рэдка. Праўда, у беларускім кіраўніцтве пераважаюць аптымісты і спадзяюцца зрабіць чарговую пяцігодку больш паспяховай. Вось і наш прэм'ер-міністр А. Кабякоў яшчэ нядаўна так бадзёра заяўляў, што краіна выйдзе ўжо зусім хутка на траекторыю росту. На практыцы такія спадзяванні аказаліся сёлета марнымі, а ў выніку значных недапаставак расійскай нафты, іншых праблем ВУП Беларусі ў студзені-верасні скараціўся яшчэ на 2,9 %.

Як і належыла чакаць, такія наступствы зацяжнога эканамічнага крызісу адчулі большасць з нас. Па афіцыйных дадзеных Белстата, з пачатку года рэальныя грашовыя даходы насельніцтва зменшыліся адчувальна, на 7,1 % у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, калі беларусы таксама бяднелі. Пры гэтым рост цэн у нас заставаўся адным з самых высокіх на постсавецкай прасторы, па ўзроўні заробкаў беларусы сталі аднымі з самых бедных у Еўропе (горш беларусаў маюць даходы толькі малдаване і ўкраінцы). Дарэчы, па выніках мінулага 2015 года такое падзенне рэальных даходаў насельніцтва склала 5,9 %, летась толькі раз крыху павысілі працоўныя пенсіі перад прэзідэнцкімі выбарамі.

Сёлета сітуацыя развіваецца, на жаль, яшчэ больш кепска, асабліва калі ўлічыць, што ва ўрадзе Беларусі прагназавалі да канца года павысіць жыццёвы ўзровень на 0,5 %. Не выйшла такое, а ў Мінэканоміцы ўжо пацвердзілі, што з 1 студзеня камунальныя плацяжы вырастуць адчувальна, на 10 новых рублёў. Крыху большым будзе павышэнне ў пачатку снежня пенсій пажылым, аднак з улікам інфляцыі рэальныя іх памеры зноў зменшацца. Спецыялісты пацвердзілі, што такога глыбокага падзення даходаў людзей не назіралася на працягу апошніх 20 месяцаў. Як ні сумна, ад ранейшай праслаўтай "стабільнасці" і мадэлі сацыяльнай дзяржавы застаюцца толькі ўспаміны, а цяпер яшчэ прымушаюць разам з сапраўднымі лайдакамі плаціць спецыяльны збор і тых, хто не можа доўга знайсці працу пры масавых скарачэннях штатаў падчас іх "аптымізацыі".

На патрэбныя эканамічныя рэформы, падобна на тое, беларускае кіраўніцтва ісці не рашаецца. Аднак у такім выпадку, па разліках экспертаў, да 2020 года Беларусь можа разлічваць бліжэй да канца пяцігодкі толькі на сціплы эканамічны рост пасля выхаду з рэцэсіі. У дзяржавы шмат праблем па выплатах ранейшых займаў, унутры краіны растуць цяжкасці ў банкаўскай сістэмы з-за масавых неплацяжоў, складанага фінансавага становішча многіх заводаў і фабрык. Для сельскай гаспадаркі гэты год таксама аказаўся няпростым, з-за капрызаў надвор'я айчынныя гаспадаркі недабралі амаль 2 млн. тон збожжа.

Праўда, галоўны банкір краіны П. Калавур пастараўся супакоіць насельніцтва, што да канца года ніякіх "шокаў" і ўзрушэнняў для беларускага рубля і плацежнага балансу дзяржавы не чакаецца. У Беларусі, па яго словах, няма праблем з тым, каб разлічыцца за расійскі газ, які мы купляем амаль у 2 разы даражэй, чым атрымоўваюць спажыўцы ў Смаленскай вобласці. Руская нам яшчэ летам адчувальна перакрылі нафтавы вентыль, і з-за недапаставак іх нафты ў 3-м квартале дзяржбюджэт Беларусі недаатрымаў 200 млн. долараў даходаў. Увогуле сёлета ў нас нават сярод краін-партнёраў па ЕАЭС самыя нізкія паказчыкі эканамічнага развіцця, а найбольш значная адмоўная дынаміка зафіксавана ў будаўніцтве і гандлі (там падзенне склала адпаведна мінус 16,9 % і 6,1 % да леташняга ўзроўню).

І самае сумнае, што падстаў для аптымізму няма, у бліжэйшыя гады лепей жыць не выпадае, а Беларусь мае шмат працавітых людзей. Да дакрызіснага ўзроўню заробкі і даходы беларусаў выйдуць не хутка, хоць летась нам абяцалі перад выбарамі зрабіць гэта за год-два. На жаль, нешта не тое робіцца ў краіне, размешчанай у цэнтральнай частцы Еўропы, дзе няма баявых дзянняў, як ва Украіне, і дзе няма страшных прыродных катаклізмаў тыпу магутных цунамі і землятрусаў.

Доля дзяржавы ў беларускай эканоміцы застаецца вельмі высокай і, на жаль, значная частка такіх дзяржпрадпрыемстваў не паспяваюць за патрабаваннямі дынамічнага часу, не вытрымліваюць вострай канкурэнцыі. Вельмі многія з іх, той жа МАЗ да прыкладу, ужо не цікавяць замежных інвестараў. Вельмі працяглы час за Саветамі, ды і апошнія чвэрць стагоддзя суверэннай Беларусі нас выхоўвалі ў тым духу, што за кожнага з вас думаюць, пра вас клапоцяцца, прадастаўляць працу, выдзеляць жыллё. Аднак у цяперашні час пра ўсё гэта трэба забывацца, хто стаіць на месцы, сам не думае пра сваё будучае, рызыкуе безнадзейна адстаць, апынуцца на перыферыі развітых краін свету.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 10.11.16 | | | | Пятніца 11.11.16 | | | | Субота 12.11.16 | | | | Нядзеля 13.11.16 | | | | Пан. 14.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -3 | -2 | -5 | -8 | -9 | -5 | -5 | -7 | -3 | -1 | -2 | -2 | -2 | 0 | -3 | -4 | -4 | -3 |
| Ціск | 740 | 738 | 741 | 741 | 741 | 742 | 745 | 745 | 747 | 749 | 751 | 750 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 753 | 755 |
| Вецер м/сек | 8 Пн-У | 5 Пн-У | 5 Пн | 5 Пн | 6 Пн | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 6 Пн-З | 5 Пн-З | 6 Пн-З | 3 З | 3 З | 2 Пн-З | 1 З | 3 Пн-У | 5 Пн | 6 Пн | 6 Пн | 5 Пн |
| Вільготнасць | 98 | 95 | 91 | 93 | 95 | 94 | 93 | 91 | 93 | 95 | 92 | 94 | 96 | 98 | 90 | 95 | 94 | 95 | 91 |

## Дзень за днём

**З пачатку года ВУП Беларусі зменшыўся на 2,9 %. Пасля нафтагазавага канфлікту Расія спрабуе пазбавіць Беларусь статусу транзітнай краіны. А. Лукашэнка даручыў удасканаліць сістэму падрыхтоўкі ваенных кадраў. Будаўнікі завяршылі ў асноўным узвядзенне МКАД-2 вакол Мінска. Беларусь упершыню пачала пастаўляць калійныя ўгнаенні ў Аўстралію. Канцэрн "Беллегпрам" зноў вырашыў стварыць трыкатажны холдынг. Айчынным магазінам з новага года рэкамендавалі пісаць цэны у кг і літрах. Летам 2017 года ў Беларусі з'явіцца ўзростовая маркіроўка СМІ. Будучыя абітурыенты пачалі пробы сваіх ведаў у ЦТ.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама заявіў, што паводзіны Расіі падрываюць міжнародныя нормы і параіў Крамлю дапамагаць вырашаць сусветныя праблемы, а не ствараць іх.

**Сірыя.** Расія накіравала на падтрымку рэжыму Б. Асада свае самыя магутныя ваенныя караблі з авіяноснай групы Паўночнага флоту і два яе ракетныя крэйсеры.

**Англія.** Масква з рэжымам Асада, як заявіла газета Financial Times, павінна заплаціць за ваенныя злачынствы ў Алепа, трэба паіменна назваць вінаватых, узмацніць санкцыі.

**Германія.** Лідары "нармандскай чацвёркі" ФРГ, Францыі, Украіны і РФ дамовіліся перайсці ад перамоваў да складання "дарожнай карты" па рэалізацыі міру ў Данбасе.

**Францыя.** Прэзідэнт Ф. Аланд назваў сітуацыю ў Алепа "сапраўдным ваенным злачынствам", з падобнай заявай выступіла і канцлер Германіі А. Меркель.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка за агрэсію ў Данбасе яшчэ на год прадоўжыў санкцыі супраць Расіі, дадаткова ўключыў у спіс 335 фізічных і 167 юрыдычных асоб РФ.

**Кітай.** У выніку рэалізацыі новай канцэпцыі развіцця эканомікі ВУП краіны з пачатку года за 9 месяцаў вырас на 6,7 %, інфляцыя знізілася да 2 %, а чакалася 3 %.

**Расія.** Спецыялісты Мінэканомразвіцця распрацавалі 3 сцэнарыі развіцця РФ да 2035 года, расіян чакае яшчэ 20 гадоў стагнацыі, паступовага спаўзання да бедных краін свету.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ назвала грубай дэманстрацыяй агрэсіі супраць усёй Еўропы перакідку Расіяй наступальных ракетных комплексаў у Калінінградскую вобласць.

**Расія.** Вядомая журналістка Ю. Латыніна заявіла, што ў Данецку адна з камандзіраў баевікоў "ДНР" Матаролу забілі, бо ён добра ведаў, якім чынам і хто збіў "Боінг".

**Чэхія.** У гатэлі ў цэнтры Прагі паліцыя па ордэру Інтэрпола арыштавала грамадзяніна Расіі, які падазраецца ў кібератаках на сайты і палітычныя структуры ЗША.

**Сінгапур.** Пасля запуску ў краіне першых у свеце беспілотных таксі ўлады пачалі тэсціраванне беспілотных электрычных аўтобусаў без кіроўцаў з разумнымі сенсарамі.

**ЗША.** Спецыялісты аўтаканцэрна General Motors распрацавалі першы ў свеце магутны і надзейны, высокапраходны ваенны джып з нізкім расходам вадароднага паліва.

**Украіна.** Главар "ДНР" А. Захарчанка назваў забойства рускага баевіка Матаролы аб'яўленнем вайны Кіевам, прыгразіў, што нікому з украінцаў літасці не будзе.

**Саудаўская Аравія.** Упершыню ў гісторыі краіны па прыгавору суда пакаралі смерцю члена каралеўскай сям'і прынца Сауда аль-Кабіра за забойства ў бойцы суайчынніка.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Сезон палявання на пушных жывёл адкрываецца ў Беларусі з 5 лістапада



■ Кар. БЕЛТА

Сезон традыцыйна з'яўляецца адным з самых масавых сярод паляўнічых, пушных звяроў карыстаецца вялікай папулярнасцю. У гэты перыяд дазволена здабываць зайцоў (русака і беляка), лісіцу, вавёрку, куніц (лясную і каменную), лясного тхара. Адначасова працягваецца сезон палявання на амерыканскую норку і андатру. Паляваць можна ў светлы час сутак на жывёл любога полу і ўзросту. Дазволеныя спосабы палявання на зайцоў - ружэйны з падыходу, з засады, загонам, безружэйны. Дапускаецца прымяненне гладкаствольнай паляўнічай зброі з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных шротам, паляўнічых сабак усіх парод. Да дазволеных спосабаў безружэйнага палявання адносяцца паляванне з хартамі сабакамі і лоўчымі птушкамі. На вавёрку, куніцу, амерыканскую норку, андатру, лясного тхара можна паляваць з ужываннем ружэйнага спосабу з падыходам, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, а таксама безружэйна. Дазволеныя прылады палявання - гладкаствольная паляўнічая зброя з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных шротам; наразная паляўнічая зброя калібра 5,6 мм; паляўнічая пнеўматычная зброя з дульнай энергіяй звыш 7,5 джоуляў, але не больш за 25 джоуляў; паляўнічыя сабакі (усе пароды, акрамя ганчакоў і хартоў). Пры безружэйным паляванні дазволена выкарыстоўваць пасткі №0-3 і лавушкі (акрамя петляў). Асенне-зімовы сезон палявання на пушныя віды жывёл будзе доўжыцца да 29 студзеня.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што ў бліжэйшыя гады будзе пагроза краху банкаўскай сістэмы з-за росту яе праблемных актываў, спаду эканомікі.

**Астравец.** За 5 гадоў будаўніцтва Беларускай АЭС адбылося толькі 10 няшчасных выпадкаў, з іх 3 з гібеллю работнікаў, на аб'екце працуюць 5582 будаўнікі.

**Гомель.** На падпітку 17-гадовы жыхар вёскі Шарпілаўка прабраўся ў двор дома мясцовай 43-гадовай настаўніцы і забіў яе нажом, каб завалодаць грашмі.

**Мінск.** Фінансавы эксперт В. Іасуб заявіў, што беларусы працягваюць жыць не па сродках, а ў бліжэйшыя 3 гады можна не марыць аб заробках 630 $, як было ў снежні 2014 года.

**Асіповічы.** Заробкі на мясцовым заводзе аўтаагрэгатаў, другім па велічыні ў холдынгу МАЗа ўпалі да 200-300 рублёў у месяц, на ім працуе амаль 1800 чалавек.

**Баранавічы.** Падчас праверкі ўзроўню падрыхтоўкі афіцэраў на мясцовым 230 Абуз-Лясноўскім палігоне А. Лукашэнка паказалі новыя верталёты Мі-8 для беларускай арміі.

**Слуцк.** З 1 лістапада ўчастак рэспубліканскай трасы Р23 Мікашэвічы-Мінск адсюль да сталіцы стаў платным для грузавікоў, як і частка дарогі М5 ад Бабруйска да Жлобіна.

**Мінск.** У бліжэйшы час, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, нас чакае новы раўнд цяжкіх перамоў з Расіяй па нафтавых пытаннях, рускія навязваюць свае порты для яе экспарту.

**Астравец.** Для пабудовы другога мікрараёна атамшчыкаў у райцэнтры спілілі шэраг велічных векавых дубоў, што моцна засмуціла многіх гараджан.

**Брэст.** Паблізу польскай граніцы пагранічнікі затрымалі групу чэчэнцаў, якія не змаглі атрымаць статус уцекача ў Польшчы і паспрабавалі туды прабрацца нелегальна пешшу.

**Мінск.** З-за пагаршэння стану здароўя пасля складанай анкалагічнай аперацыі ў адстаўку датэрмінова адправілі 65-гадовага сакратара Цэнтрвыбаркама Мікалая Лазавіка.

**Петрыкаў.** У вёсцы Капаткевічы 42-гадовая непрацуючая дзеля 1500 руб. сякерай забіла 27-гадовую жанчыну-паштальёна, якая разносіла пенсіі старым, і схавала труп у склепе сваёй хаты.

**Гомель.** Раніцай стрэламі з пісталета і аўтамата міліцыянеры застрэлілі шалёнага лася, які напаў і параніў мужчыну і пашкодзіў 6 аўтамабіляў у адным з гаражных кааператываў.

**Жабінка.** Падчас працы ў начную змену на мясцовым цукровым заводзе пры разгрузцы вагонаў трагічна загінуў 26-гадовы грузчык, калі заклініла запорны механізм.

**Мінск.** Упершыню Беларусі даверылі правесці на "Мінск-арэне" чэмпіянат Еўропы па фігурным катанні 21-27 студзеня 2019 года, яе выбралі сярод 5-ці гарадоў кантынента.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Мадэль сістэмы страхавання ад беспрацоўя будзе прадстаўлена ў Саўмін да 1 лютага 2017 года

Мадэль сістэмы страхавання ад беспрацоўя будзе прадстаўлена ва ўрад Беларусі на 1 лютага 2017 года. Пра гэта паведаміў на «Кастрычніцкім эканамічным форуме» (KEF) «Рэформы для ўцягваючага росту»» начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Токун, перадае карэспандэнт БелТА. «Плануецца, што з 2018 года ў Беларусі будзе ўкаранёна сістэма абавязковага страхавання ад беспрацоўя», - сказаў Алег Токун. Ужо створана міжведамасная рабочая група, якая ўключае прадстаўнікоў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, іншых дзяржорганаў, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прадстаўнікоў наймальнікаў. «Мы актыўна абмяркоўваем мадэлі сістэмы страхавання. Выказваюцца розныя пункты гледжання на гэтае пытанне Вывучаем сусветны вопыт, але аднастайнасці няма - .. Кожная краіна выбірае сваю мадэль, - растлумачыў Алег Токун. Наша задача складаецца ў тым, каб чалавек, які па аб'ектыўных прычынах страціў працу, атрымліваў гоДы дапаможнік па беспрацоўі на працягу пэўнага перыяду часу». Падпраграмай «Садзейнічанне занятасці насельніцтва» Дзяржаўнай праграмы аб сацыяльнай абароне і садзейнічанні занятасці насельніцтва на 2016-2020 гады прадугледжана, што ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя не павінен перавысіць да канца пяцігодкі 2%. На гэта накіраваны ўсе нашы дзеянні, рэзюмаваў прадстаўнік Мінпрацы і сацабароны.

*Алена Прус - БЕЛТА*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за самых нізкіх у краіне надояў малака і сярэднясутачных прываг жывёлы ў вобласці вырасла колькасць стратных гаспадарак і перапрацоўчых прадпрыемстваў.

**Бешанковічы.** На новым беларуска-літоўска-славацкім заводзе медпрэпаратаў Nativita адкрылі навукова-даследчы цэнтр, выпуск 7 прэпаратаў супраць раку пачнецца ў снежні.

**Наваполацк.** Міністр адукацыі Беларусі Міхаіл Жураўкоў пабываў у Полацкім дзярж– універсітэце, сустрэўся з кіраўніцтвам горада і навучэнцамі гімназіі № 2.

**Глыбокае**. Мясцовы МКК стаў адным з пераможцаў II Рэспубліканскага конкурсу "Лідар энергаэфектыўнасці – 2016" за эфектыўную рэканструкцыю цэха па выпуску бляшанак.

**Браслаў.** На новай аўтаматызаванай лініі мясцовых хлебазавод пачаў выпуск трох відаў макарон у фасаваным выглядзе па 500 грам і ў спецыяльных каробках па 5 кг.

**Мёры.** У суд паступіла крымінальная справа супраць 8 былых супрацоўнікаў райпо, якія скралі з касы 400 тысяч новых рублёў, падчас следства памёр старшыня яго праўлення.

**Гарадок.** Міліцыя затрымала 26-гадовага бацьку, які жорстка рамянём збіў сваю 1,5 гадавалую дачку, яе даставілі ў бальніцу, а дамашняму садысту пагражае да 5 год турмы.

**Полацк.** З тэрыторыі загараднай дачы 41-гадовага мінчаніна невядомыя зладзеі скралі амаль 3 кг прыхаванага золата пасля таго, як залезлі ў памяшканне праз акно.

**Віцебск.** На павышэнне пайшоў 52-гадовы пракурор вобласці, ураджэнец Ашмян Генадзь Дыско, яго прызначылі на пасаду намесніка генеральнага пракурора Беларусі.

**Ушачы.** Уладыка Полацкай і Глыбоцкай епархій Феадосій асвяціў у райцэнтры новую царкву трох святых пакутніц і адслужыў у новым храме першую Боскую літургію.

**Фарынава.** На тэрыторыі часці Полацкага пагранатрада адкрылі мемарыяльны комплекс "Алея пагранічнай славы" са скульптурнай кампазіцыяй Алега Шаўкунова.

Орша. Суд пакараў 5 гадамі калоніі строгага рэжыму 34-гадовага мясцовага жыхара, які пасля п'янага дэбоша і затрымання пакусаў супрацоўніка міліцыі, а потым прахожага.

Докшыцы. У сквера паблізу райбальніцы ўстанавілі помнік з абразом св. лекара вялікамучаніка Панцеляймона, які асвяціў епіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій.

**Паставы.** На базе адпачынку "Азёркі" ўслед за вяровачным гардком для турыстаў узвядуць скаладром з 3-х горак, трасу "Дзіцячая паляна", тут абсталюецца і кафэ.

**Наваполацк.** Вечарам на высокай хуткасці 18-гадовы кіроўца, хакеіст мясцовай каманды "Хімік-СКА" наехаў на пераходзе на 64-гадовую пенсіянерку, яна загінула на месцы ДТЗ.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# З гісторыі развіцця райаддзелаў кінафікацыі (1945-1950 гг.)



**Н. А. Баравік,**
*дырэктар установы «Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае».*

Станаўленне беларускай культуры ў заходніх раёнах пасля ўз'яднання з БССР праходзіла паскоранымі тэмпамі. За гады Вялікай Айчыннай вайны была амаль поўнасцю разбурана матэрыяльна-тэхнічная база культуры. У пасляваенныя гады мясцовыя ўлады надавалі вялікае значэнне будаўніцтву культурных і адукацыйных устаноў, якія павінны былі дапамагчы вырашыць у першую чаргу галоўную праблему – аднавіць народную гаспадарку і сельскую гаспадарку ў прыватнасці.

Дамы культуры, клубы, хаты-чытальні, бібліятэкі сталі асноўнымі цэнтрамі культуры ў сельскіх раёнах. Гэтыя ўстановы, непасрэдна звязаныя з працай і бытам насельніцтва, праводзілі вялікую работу па арганізацыі вольнага часу працоўных, прапагандавалі новы савецкі лад жыцця.

Забяспечваць выкананне рашэнняў партыі і ўрада па пытаннях кінафікацыі павінны былі такія ўстановы культуры як раённыя аддзелы кінафікацыі. Полацкі аблвыканкам 7.02.1945 прыняў рашэнне аб стварэнні аддзелаў кінафікацыі ў тых раёнах, дзе меліся дзейсныя кінаўстаноўкі, а ў астатніх раёнах - па меры развіцця кінасеткі. Кінаўстаноўкі ў раённых Дамах культуры перадаваліся з вядзення аддзелаў народнай адукацыі ў эксплуатацыю органам кінафікацыі. Кінапаказ павінен быў складаць каля 20 экранадзён у месяц, а ў астатнія дні неабходна было праводзіць іншыя масавыя мерапрыемствы па планах, зацверджаных адпаведнымі раённымі арганізацыямі. Выязджаць з паказам кінафільмаў у калгасы, саўгасы і машынна-трактарныя станцыі прадпісвалася не радзей за адзін раз у месяц і толькі па зацверджаным райкамам партыі маршруце.

Кожны аддзел кінафікацыі распрацоўваў і выконваў мерапрыемствы па паляпшэнні якасці кінапаказаў і культурнага абслугоўвання гледачоў, трымаў кантроль над тэхнічным станам кінаўстановак, зацвярджаў рэпертуарныя планы, кіраваў культурна-масавай работай кінатэатраў і кінаперасовак.

Зцяжкасцяміпрыходзілася рэалізоўваць ленінскіе словы аб тым, што найважнейшым з мастацтваў з'яўляецца кіно, была задзейнічана ўся вертыкаль улады. Мясцовыя органы ўлады рэгулярна заслухоўвалі на пасяджэннях выканкамаў начальнікаў райаддзелаў кінафікацыі, дырэктараў кінатэатраў, патрабуючы палепшыць працу кінасеткі, рэкламаванне дэманстраваных фільмаў, павялічыць колькасць кінасеансаў. Старшыняў сельскіх выканкамаў абавязвалі своечасова прадстаўляць транспарт для перамяшчэння апаратуры ў аддаленыя населеныя пункты, падбіраць памяшканні для стацыянарнага абслугоўвання насельніцтва. Райкамгасы павінны былі скласці рэжым працы электрастанцый так, каб у кінатэатры своечасова падавалася электраэнергія. Кінакарціны адпраўлялі ў раёны як тэрміновы груз.

Падчас дэманстрацыі фільмаў у кінатэатрах павінны былі несці дзяжурствы пажарная ахова, міліцыя, якія, карыстаючыся службовым становішчам, часам самі з'яўляліся парушальнікамі парадку ўваходу ў кіно. Да прыкладу ў 1945 г. у г. Докшыцы райвыканкамам афіцыяльна было прапанавана начальніку райаддзела міліцыі забараніць работнікам міліцыі бясплатны ўваход у кіно акрамя дзяжурнага міліцыянера.

Стрымлівала развіццё кінафікацыі адсутнасць кінатэатраў або нездавальняючы іх стан. Так напрыклад, пасля вайны кінатэатр у г. Паставы размесціўся ў драўляным будынку, не прыстасаваным пад кінатэатр, не адпавядаў супрацьпажарным умовам, стваралася пагроза абвалу памяшкання і ўзнікненне пажару. І толькі 12.04.1947 Пастаўскі райвыканкам прыняў рашэнне аб перадачы пад кінатэатр дома па вул. 17 Верасня, дзе месціўся інтэрнат педвучылішча.

Праводзіўся ў жыццё і эканомны выраянт пашырэння сеткі клубаў: вызваляліся складскія памяшканні "Заготзерно" і там ладзіліся сельскія клубы (м. Лужкі, Празарокі, Мёры).

Дзяржаўных сродкаў на будоўлю не хапала. Пасляваенае вырашэнне гэтай праблемы магчыма было шляхам прыцягнення насельніцтва да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве ўстаноў культуры метадам "народнай будоўлі". Тыповы прыклад: моладзь Іказненскага сельсавета Браслаўскага раёна на камсамольска-маладзёжным сходзе прыняла рашэнне да 30-годдзя ВЛКСМ адрамантавацьі абсталяваць клуб сіламі грамадскасці, з 3 па 15 кастрычніка 1948 г. яны аб'явілі дэкаднік па рамонце клуба і нарыхтоўцы дроў на зіму, што і было праведзена ў жыццё.

Архіўныя дакументы сведчаць, што эксплуатацыйныя планы кінаўстановак не выконваліся, напрыклад, у Плісім раёне ў першым квартале 1946 года са запланаваных 110 кінасеансаў было дадзена 45, у Браслаўскім раёне з 165 кінасеансаў – толькі 61. І ў той жа час у 1946 г. раённыя работнікі кінафікацыі грашылі частымі паездкамі ў абласны цэнтр г. Полацк, што выклікала нават неабходнасць выдання адмысловага загаду абласнога кіраўніка аб забароне бескарысных камандзіровак.

Невыкананне плана па кінаабслугоўванні, адсутнасць арганізаванай працы, тэхнічных магчымасцяў прывялі да таго, што ў лістападзе 1946 года ў адпаведнасці з рашэннем Полацкага аблвыканкама райаддзелы кінафікацыі, якія налічвалі менш 5-ці кінаўстановак, былі ліквідаваны (Дунілавіцкі, Асвейскі, Відзаўскі, Дзісненскі, Ветрынскі, Плiскі, Мёрскі і Расонскі раёны), работа па кіраўніцтве кінасеткі была ўскладзена на дырэктараў кінатэатраў. Працягвалі дзейнічаць аддзелы кінафікацыі, якія налічвалі 5 і больш кінаўстановак ў Дрысенскім, Полацкім, Браслаўскім, Ушацкім, Шаркаўшчынскім, Докшыцкім і Глыбоцкім раёнах.

Дакументы сведчаць, што ў Пастаўскім раёне за 1946 г. і 1 квартал 1947 г. план па сеансах у горадзе выкананы толькі на 61%, у сельскай мясцовасці - на 22%, у ліпені 1947 г. Пастаўская кінаперасоўка ні паставіла ніводнага сеансу на вёсцы, у жніўні - толькі 10 (прысутнічаў 261 глядач). У Докшыцкім раёне эксплуатацыйны план працы кінаўстановак у 1947 г. выконваўся на 20-40%, на працягу 1948 г. праводзіліся будаўнічыя працы ў новым кінатэатры.

Вось як распавядае кінамеханік Дунілавічскага райаддзела кінафікацыі Грачышнікаў аб рабоце на сяле, цытую па архіўным дакуменце: *«На селе с кинопередвижкой – сложная работа. Чтобы больше обслужить зрителей и собрать большую выручку, в этом нужно умение. Например, в рекламах указано начало сеансов в 10 часов вечера, зрители не приходят вовремя, потому что заняты своей работой и знают, что раньше киносеанс не начнется. К часам 11 приходят, кино уже началось для малого числа зрителей, из пришедших, кто возьмет билет, а большей частью пытаются ждать, когда пройдет половина сеанса, чтобы войти бесплатно в кино. И бывает так, что людей на улице стоит много, а в кино не идут, и как только пройдет одна часть фильма, один выйдет из зала и скажет, что хороший фильм, тогда начинают брать в кино билеты, тогда и будет выручка».*

Кінаабслугоўванне школьнікаў было пастаўлена нездавальняюча: кінаперасоўкі праводзілі нерэгулярна дзіцячыя кінасеансы на сяле, у гарадскіх кінатэатрах дапускалася наведванне школьнікамі вячэрніх кінасеансаў; не практыкавалася арганізаванае калектыўнае наведванне навучэнцамі дзённых і нядзельных кінасеансаў.

З сакавіка 1947 г. у Полацкай вобласці быў забаронены індывідуальны продаж квіткоў у кіно і іншыя відовішчныя мерапрыемствы дзецям да 16 гадоў ва ўсе дні тыдня, за выключэннем нядзелі, святаў і дзён зімовых канікул. У дні навучальных заняткаў дапушчалася наведванне дзецьмі кіно ў арганізаваным парадку ў суправаджэнні педагога, выхавацеля або піянерважатай. Дзіцячыя сеансы належыла заканчваць не пазней за 20 гадзін. На прадаваных дзецям і падлеткам квітках павінен стаяць штамп «дзіцячы». Гандлёвым арганізацыям было забаронена прадаваць дзецям і падлеткам да 16 гадоў спіртныя напоі, папяросы і запалкі. Службовыя асобы, вінаватыя ў парушэнні вышэйназваных правілаў, прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці – штрафу да 100 руб.

Значную ролю ў развіцці культуры ў пасляваенны перыяд мелі пастановы ЦК ВКП(б) па ідэалагічных пытаннях, лейтматывам праходзіць ідэя барацьбы па ўмацаванні новага савецкага ладу жыцця, вытворчых і грамадскіх адносін, "светлай" будучыні пасля ўз'яднання з БССР.

Якія ж цікавыя кінафільмы паказваліся ў 1948 г.? У г. Докшыцы асаблівым поспехам у гледача карысталіся фільмы «Выхаванне пачуццяў», «Рым - адкрыты горад», «Міклуха Маклай»; у Дунілавічскім раёне – «Сакратар райкама», «Багатая нявеста»; у Глыбоцкім раёне – «Сказ аб зямлі сібірскай», «Трэці ўдар», «У людзях», «Хлопчык з ускраіны», «Балгарыя», «Радавы Аляксандр Матросаў»; у Дісненскім Доме культуры толькі за два дні, 26 і 27 кастрычніка 1948 г. кінафільм «Маладая гвардыя» прагледзела звыш 1200 жыхароў райцэнтра і бліжэйшых весак. Для вучняў Докшыцкай сярэдняй школы паказваўся кінафільм «15 гадовы капітан», дзённыя сеансы наведала звыш 400 вучняў.

Сярод калектываў кінатэатраў і асобных кінамеханікаў разгортваліся сацыялістычныя спаборніцтвы за масавы ахоп гледачоў і паляпшэнне якасці кінапаказаў. У 1948 г. праводзіўся Усесаюзны агляд на лепшы кінатэатр і сельскую кінаперасоўку, у якім прыняў удзел калектыў кінатэатра "Радзіма" г. Глыбокае. За прыкладнае абслугоўванне работнікі кінатэатра былі ўзнагароджаны граматамі Міністэрства кінематаграфіі СССР.

Нягледзячы на станоўчыя моманты работы кінатэатраў і кінаперасовак, меліся і нездавальняючыя паказчыкі. У ходзе праверак фінансавай дзейнасці райаддзелаў і райкінатэатраў у 1948 г. было ўстаноўлена, што некаторыя з іх арганізавалі чорную касу і ў абыход дзяржбанка выраблялі выдаткі з выручкі на розныя роду патрэбы. За прычыненне матэрыяльнага ўрону, невыкананне эксплуатацыйнага плана, прастоі кінаперасовак, парушэнні правілаў пажарнай бяспекі, якія прывялі да страты кінаплёнак, у шэрагу раёнаў былі зняты з працы дырэктары кінатэатраў або начальнікі райаддзелаў кінафікацыі (Браслаўскі, Докшыцкі, Дунілавічскі раёны і інш.).

Архіўныя дакументы захавалі звесткі аб нядобрасумленным кінаабслугоўванні: так за 5 месяцаў 1949 г., з-за вялікай колькасці дзён прастояў, эксплуатацыйныя планы кінасеткі ў Мёрскім і Плiскім раёнах выкананы крыху больш за 20%, у м. Пліса з 23 рабочых дзён чэрвеня 1949 г. прастоі склалі 17 дзён.

Полацкім абласным упраўленнем кінафікацыі ў 1949 г. было ўстаноўлена, што ў раёнах *"... работа ведется без всякого учета и планов маршрута. Населенные пункты не закреплены за определенными киномеханиками, которые как и начальники райотделов и директора райкинотеатров, не знают района и населенных пунктов, не имеют актива, помогающего в организации киносеансов, в предоставлении транспорта. Киносеансы на селе проходят не организованно".*

Ішоў час, мянялася ўнутранае і знешняе аблічча кінатэатраў, праводзіліся рамонты і будаваліся новыя клубныя ўстановы, што ў канчатковым рахунку прывяло да паляпшэння культурнага абслугоўвання насельніцтва. Так, калі ў першым паўгоддзі 1948 г. Браслаўскім кінатэатрам «Радзіма» было пастаўлена 79 сеансаў і абслужана 8554 чалавек, даход склаў 25360 руб., то ў першым паўгоддзі 1949 г. ужо пастаўлена 187 сеансаў, абслужана 16014 гледачоў, сабрана сродкаў 42000 руб.

Глядач той пары не быў распешчаны. Ён быў гатовы цярпець частыя абрывы стужак, знікненне гуку, дрэнную якасць дэманстрацыі карцін і іншыя недахопы, абы дакрануцца да гэтага цуда – кіно, перажываць і хвалявацца з героямі кінафільмаў, пераносячыся ў уяўны свет экрана.




**"Хлопчык з ускраіны", афіша папулярнага ў 1948 годзе фільма ў Глыбокім.**

# Ці можа народ, які стаіць на каленях, стварыць сваю будучыню?

*"Ніякі народ не адчайваецца, і хай народ доўгі час спадзяецца проста на глупства, усё ж калі-небудзь, пасля доўгіх гадоў, ён ажыццявіць, у момант раптоўнага прасвятлення, усе свае пабожныя пажаданні".*
*Карл Маркс*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Наша жыццё – падарожжа, ідэя – праваднік. Няма праваднікa - і ўсё спыняецца. Мэта згублена, і сілаў як і не было. Ідэя – гэта пазнанне і імкненне чалавека да светлага жыцця. Са з'яўленнем чалавека, з'явілася і яго гісторыя. На жаль, розныя гісторыкі па-рознаму яе паказваюць, часам скажаюць, каб дагадзіць зацікаўленай уладзе.

Упершыню забарону на захаванне дахрысціянскай гісторыі паклаў князь Уладзімір, гвалтоўна пахрысціўшы Русь. Тады з народа, які лічыў сябе "дзецьмі багоў", мы ператварыліся ў "рабоў божых". Потым пра Кацярыне II, якая была немкай, была складзена Мілерам і Шлецэрам, немцамі, якія не ведалі рускай мовы, як бы славянская гісторыя, згодна якой мы сталі "дзікімі непісьменнымі плямёнамі". Ламаносаў усё сваё жыццё змагаўся з гэтай псеўдагісторыяй, напісанай нярускімі па загадзе нярускай улады (дынастыі Раманавых). Яго нават саджалі за гэта ў турму. Так, з веку ў век, рускім унушалі не іх гісторыю, а казку. Праўда, беларусы ведаюць сваю гісторыю, як гісторыю ВКЛ.

Згодна псіхагенеалогіі (аўтар А.А.Шутцэнберг), да той пары, пакуль мы не вывучым сваю гісторыю і культуру, мы будзем паўтараць свае памылкі, будзем асуджаны быць не народам, а натоўпам людзей без арыенціраў, якія ідуць невядома куды. Невыпадкова, што апошнія 25 год у нас адбыўся развал інстытута сям'і, маралі і эканомікі, затое квітнее алкагалізм, наркаманія, суіцыд, прастытуцыя, сэксуальная рэвалюцыя, культ грошай і сацыяльны статус "багаты", "круты".

Псіхолагі і крыміналісты канстатуюць факт змянення масавай свядомасці людзей. На жаль, сталі з'яўляцца дзіўнаватыя асобы. Гэта і не псіхічна хворыя, не неўрацікі, але і нездаровыя людзі. З лагічным мысленнем у іх усё ў норме, яны ведаюць, чаго хочуць ад жыцця, у іх няма непакою, няўпэўненасці, але тыя каштоўнасці, якія яны прапаведуюць, проста жудасныя, нават бесчалавечныя. У дзяцінстве іх ніхто не крыўдзіў, каб можна было сказаць, што прычыны іх дзіўнасці – цяжкае дзяцінства. У іх ёсць жаданне, але да іншых людзей яны эмацыянальна халодныя. Іх сэрцы чэрствыя.

Біялагічная патрэбнасць у сям'і, дзецях у такіх людзей адсутнічае. Калі ў іх і ёсць дзеці (партнёр падбіраецца па грашах, дзеці нараджаюцца "па залёце"), то да іх яны адносяцца без цяпла, але з патрабаваннямі быць выдатнікам ва ўсім, засыпаюць іх матэрыяльнымі дабротамі, але эмацыянальнага цяпла не даюць. У такіх людзей прысутнічае вялікая сквапнасць да грошай і ўлады над іншымі. Глядзіш на іх, і ўзнікае адчуванне, быццам гэта зомбі, нейкія чужародныя істоты з іншай генетыкай, людзі з іншай планеты. Вядуць яны сябе так, быццам ім усё дазволена. Калі я па тэлевізары бачу, як на следстве, або ў судзе злачынца, які забіў іншага чалавека, разважае аб сэнсе жыцця, узнікае пытанне – да чаго ж мы дакаціліся? Калі ў тэлепраграме "Пусть говорят" разбіраецца пытанне аб тым, што дзяўчынка з асобай жорсткасцю збівае сяброўку, а побач стаяць іншыя дзяўчаты і цешацца мучэннямі ахвяры, напіваюца, як вампіры, энергіяй і страхам сяброўкі, ці ж гэта не сатанізм! Дык ці людзі гэтыя падлеткі? А чаго чакаць ад іх, калі яны стануць дарослымі?



Сёння ў сродках масавай інфармацыі мы знаходзім факты, прычым не адзінкавыя, што нават падлеткі, якія выраслі ў шчаслівых сем'ях, раптам пачынаюць весці сябе распусна, ужываючы наркотыкі, займаюцца піўным алкагалізмам і крычаць: "О, двіжуха! Клёва! Ды пляваць мне на гэту краіну! Ды напляваць мне на іншых! Якая розніца, што адбываецца навокал!" Гэта ўжо генетычнае выраджэнне нацыі.

Але ж такога 25 год назад у нас не было. Усё гэта проста дзіка. Гэта не падыходзіць для нас, для нашай генетыкі, для нашай псіхікі. Гэта разбуральна. Гэта выраджэнне народа. Але ў нас усёдазволенасць прапаганды разбэшчанасці і антыпатрыятызму ў культуры і адукацыі – асноўных галін, якія ўздзейнічаюць на грамадскую свядомасць.

Таму нашы дзеці танцуюць пошлыя танцы, спяваюць не менш пошлыя песні, у кінафільмах адкрыта прысутнічае бессаромны сэкс. У кіно і тэлебачанні бесперастанныя сцэны гвалту і забойства, ужывання алкаголю, нюханне какаіна (фільм "Две судьбы"), дэманструюць палавыя акты 14-гадовых падросткаў (фільм "14+"), а ўсё ж гэта інфармацыйнае замбіраванне, якое вядзе да маральнай, фізічнай і духоўнай дэградацыі!

Нядзіўна, што гісторыю мы таксама вучым не сваю. У нашых школах колькасць гадзін, якая адведзена на грамадскія навукі, родную мову і літаратуру мінімальныя. Вось так моладзі прывіваем чужую нашаму менталітэту культуру!

Усё гэта проста жудасна! Гэта не зусім падыходзіць для нас, для нашай генетыкі, для нашай псіхікі, таму што разбурае іх. Таму мы сёння атрымалі тое, што атрымалі: развал маралі, развал сям'і, развал эканомікі. Не дай Бог здарыцца вайна, ці пойдуць нашы маладыя людзі абараняць краіну, калі ад службы ў арміі вельмі многія стараюцца ўхіліцца, ідуць на розныя хітрасці, нават коштам свайго здароўя? Ці знойдуцца патрыёты, якія здольныя паўтарыць подзвіг Матросава, Гастэлы, Смірнова? Выдатная зброя "Паланэзы", але імі павінны кіраваць людзі.

Якая сёння самая прэстыжная спецыяльнасць? Фінансы і крэдыт. Замест эканамічнай геаграфіі ў нас зараз маркецінг – навука абалваньвання людзей, інфармацыйнага "залезання" ў іх галовы з мэтай змены ідэнтыфікацыі з "Я – чалавек" на "Я – рэч". Але калі чалавек ідэнфіцыруе сябе з рэччу, то ён ужо не чалавек, а зомбі!

Як мы адносіліся ў старажытнасці да сваіх продкаў? Мы называлі багамі сваіх прабацькоў. І рытуал звяртання да багоў, як да прабацькоў, да гэтага часу застаўся ў нас: на могілках мы ставім помнікі са здымкамі, прыходзім туды, сядзім на лаўках. А гэта ж быў рытуал на капішчах, калі ставілі слупы, на іх выразалі твары – і людзі прыходзілі, запальвалі агонь, прыносілі ежу і звярталіся да продкаў, г.зн. яны звярталіся да сваіх каранёў!

У нашых продкаў у галаве быў закон, у сэрцы – памяць і сумленне, жылі яны справядліва, па праўдзе, цанілі і зберагалі сям'ю – Род, НаРод, ПрыРоду, і Радзіму. Мы павінны быць вартыя памяці нашых продкаў, каб зноў настаў час, калі аб нас будуць казаць: "У іх закон у галаве."

## Восеньская журба

У край чужы панясуць жураўлі
Сум-журботу па роднай зямлі.
Пад аблокамі крыкі ірвуцца
І да гнёздаў былых данясуцца.
"Крутам-мутам" ляцяць беражком,
Паясочкам у высі, клінком.
Услед рукой памахаю: "Бывайце!
Да вясны, жураўлі! Прылятайце!"
Косы вербачкі мыюць у вадзе,
А ўжо восень з дажджамі ідзе.
Рэчка летам быць поўнай хацела,
А дажджы не прыйшлі – абмялела.
– Не спяшайся пайсці, не маўчы, –
Сад шаптаў у асенняй начы.
Ды каханне і слухаць не стала,
Назусім нас дваіх пакідала.

*Людміла Ардынская*



## Вішні

Вішні мае белыя
Дзіўнаю вясной.
Ад зімы збалелыя –
Светлы смутак мой.
Як цвілі ля хаты вы
У маёй вясне!
Незабыўна, радасна
Цешылі мяне.
Лёс мой неўлагоднены
Хату не зберог.
Людзі незнаёмыя
Выйдуць на парог.
Хто? Адкуль? – аб гэтым я
Слова не скажу,
Толькі на вішнёвую
Пагляджу мяжу.
З-пад старога кораня
Выйшаў новы сад.
Усе імгненні мройныя
Не вярнуць назад.

*Людміла Ардынская*

# Асенне-зімовы сезон палявання

**З першай суботы нядаўна адчыніўся асенне-зімовы сезон палявання на пушныя віды паляўнічых жывёл – куніцу лясную і каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру, вавёрку, а таксама зайца-русака і зайца-беляка. Таксама пры любым законным знаходжанні ў паляўнічых угоддзях у мэтах палявання дазволена здабыча ваўка, лісіцы, янотападобнага сабакі, шэрай вароны, сарокі, бадзяжных катоў і беспародных сабак.**

■ **Валерый Катовіч,** *старшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Паляваць на куніцу лясную і каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру, вавёрку дазволена ў светлы час сутак ружэйным спосабам з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі ўсіх парод, акрамя ганчакоў і хартоў, а таксама безружэйным спосабам з дапамогай пастак (№0-3), пастак (за выключэннем петляў). На зайца паляваць дазволена ў светлы час сутак ружэйным спосабам з падыходу, з засады, загонам у тым ліку з паляўнічымі сабакамі ўсіх парод, безружэйным спосабам з выкарыстаннем хартоў і лоўчых птушак.

Пры ружэйным паляванні на названыя віды дазваляецца выкарыстоўваць гладкаствольную паляўнічую зброю з патронамі, забяспечанымі шротам, а на куніцу лясную і каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру і вавёрку – таксама наразную паляўнічую зброю калібра 5,6 мм, паляўнічую пнеўматычную зброю з дульнай энергіяй звыш 7,5 джоўлей, але не больш за 25 джоўлей.

Здабываць ваўка, лісіцу, янотападобнага сабаку, шэрую варону, сароку, бадзяжных катоў і беспародных сабак дазваляецца прыладамі і спосабамі, дазволенымі ў дадзеныя тэрміны для палявання на паляўнічых жывёл у адпаведнасці з паляўнічай пуцёўкай.



Паляванне з хартамі.

Асенне-зімовае паляванне будзе займальным, здабычлівым і прынясе максімум задавальнення, калі паляўнічыя будуць выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, тэхніку бяспекі пры правядзенні палявання, этыку паляўнічага.

Паважаныя паляўнічыя, выконвайце правілы і ўдалага ўсім палявання.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**

## Зямельны падатак павінен быць заплачаны своечасова!

**Паважаныя ўласнікі жылых дамоў, дзвюх і больш кватэр, гаражоў і іншых збудаванняў, а таксама ўладальнікі зямельных участкаў! Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Глыбоцкім раёне нагадвае, што 15 лістапада скончаецца тэрмін выплаты фізічнымі асобамі падатку на нерухомасць, зямельнага падатку і арэнднай платы за зямельныя ўчасткі за 2016 год.**

Просім Вас своечасова і ў поўным аб'ёме выплаціць у бюджэт належныя да выплаты сумы падаткаў.

Выплату плацяжоў можна зрабіць з выкарыстаннем сістэмы дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання (інтэрнэт-банкінг, інфакіёск, банкамат), а таксама ва ўстановах банкаў, аддзяленнях сувязі.

Звяртаем Вашу ўвагу, што ў выпадку выплаты падаткаў пасля 15 лістапада 2016 года да фізічнай асобы могуць быць ужытыя меры адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з часткай 6 артыкула 13.6 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, у прыватнасці за нявыплату або няпоўную выплату фізічнай асобай сумы падатку, якая перавышае адну базавую велічыню, прадугледжана накладанне штрафу ў памеры 15 працэнтаў ад нявыплачанай сумы падатку, але не менш як пяць дзясятых базавай велічыні.

**Тэлефоны для даведак інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Глыбоцкім раёне: 5-47-41, 5-47-03, 5-47-56.**

*Інспекцыя МПЗ*



## МТЗ прэзентаваў самую магутную мадэль – трактар "Беларус-4522"



На плошчы каля Мінскага трактарнага завода адбылася прэзентацыя новай мадэлі трактара «Беларус-4522» магутнасцю 450 к.с.

Трактар з'яўляецца найноўшай распрацоўкай ААТ «МТЗ» і адпавядае апошнім тэндэнцыям у развіцці сусветнага трактарабудавання. Гэта самы магутны трактар у лінейцы прадукцыі МТЗ і адзін з самых магутных колавых трактароў у свеце, паведамляе БелТА.

"Лічба 450 для Беларусі вядомая. Так, зусім нядаўна БелАЗ выпусціў 450-тонны самазвал, які стаў самым магутным самазвалам у свеце. Думаю, што лічба 450 дасць магчымасць у бліжэйшы час Мінскаму трактарнаму заводу выйсці на перадавыя рубяжы", – сказаў міністр прамысловасці Віталь Воўк падчас прэзентацыі трактара. Паводле яго слоў, самае галоўнае, каб тэхніка была дастойна ацэненая спажыўцамі – сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, для якіх яна і ствараецца.

"Беларус-4522" уяўляе сабой трактар агульнага прызначэння цягавага класа 8 з колавай формулай 4К4, выкананы па класічнай кампаноўцы. На яго ўсталяваны рухавік Caterpillar C13, які адпавядае па выкідах шкодных рэчываў нормам Stage-IIIA. Трансмісія забяспечвае 16 перадач пярэдняга ходу, 8 перадач задняга ходу. Кіраванне – электрагідраўлічнае.

На МТЗ спадзяюцца, што наш новы трактар будзе мець попыт у краінах з вялікімі пасяўнымі плошчамі – напрыклад, у Казахстане ці Расіі.

## Дзякуй усім добрым людзям!

Вялікі смутак напаткаў нашу сям'ю – пайшоў з жыцця наш бацька і дзядуля – **Пётр Максімавіч Шайтар.**

Дзякуй усім добрым людзям, якія не пакінулі нас сам на сам з бядой! Дзякуй кіраўніцтву Глыбоцкіх Электрычных Сетак, якое выдаткавала аўтатранспарт і работнікаў для пахавання. Дзякуй суседзям, далёкім і блізкім сваякам, якія знайшлі час прыехаць да нас здалёк. Дзякуй неабыякавым людзям, якія дапамаглі аформіць усе патрэбныя дакументы, зладзіць памінальны стол.

*З удзячнасцю Ніна, Сяргей і Аляксандр Пяткевічы.*

## У Ходараўцы памаліліся за ахвяраў Другой сусветнай вайны

**Ва ўрочышчы Ходараўка, што ў Докшыцкім раёне, 7 лістапада ксёндз Раман Мурзіч, пробашч парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве, і вернікі з навакольных вёсак памаліліся на месцы пахавання ахвяраў нацызму.**

З-за дрэннага надвор'я на ўшанаванне памяці ахвяраў сабралася толькі дзевяць чалавек. Большасць прыйшлі пешшу з вёскі Сітцы, гэта чатыры кіламетры ад Ходараўкі.

27-29 чэрвеня 1944 года нацысты расстралялі ў Ходараўцы каля васьмісот чалавек – дзвесьце італьянскіх ваеннапалонных і шэсцьсот мірных жыхароў-беларусаў. У 1992 годзе за італьянскія сродкі там пабудавалі мемарыяльны комплекс.

У Каталіцкім Касцёле з 1 па 8 лістапада адзначаецца актава ўрачыстасці Усіх Святых. У гэтыя дні вернікі наведваюць могілкі, святары служаць у касцёлах і на магілках набажэнствы за супакой душаў памерлых.

*Паводле westki.info*

*Фота Кастуся Шыталя*



